


## ЧАС ПАДАРОЖЖАЎ




ТУРЫСТЫ Ў ВАЧАХ ТАМОЖНІКАЎ.




ТАМОЖНІКІ Ў ВАЧАХ ТУРЫСТАЎ



— Гуляеце ў коні?
— Не, трымаю іх так, каб не разышліся.




# КРЫЖАКІ

Здзіўляючы, як мяняюцца часы. Да Грунвальду нашы людзі мелі крыжакаў па горла. Толькі і думалі, як ад іх адчапіцца. А сёння шалеюць, тоўпамі штурмуюць касы кіно ў надзеі ўбачыць «Крыжакаў»

Мой прыяцель таксама пхаўся за білетамі, але атрымаў фігу з маслам. Як чалавек ініцыятыўны, хоць сам у кіно не трапіў, але сваёй жонцы наладзіў уваход бясплатны.

У знаёмага пажарніка прыяцель выпрасіў мундзір і пераапрануў у яго сваю жонку. Зрабіў усё як мае быць. На галаў жонкі налажыў бліскучую каску, да боку прычапіў тапорык, рамень ад каскі апусціў пад бараду. І пайшла жонка праз таўпу, як нож скрозь масла.

Білецёрка, было, здзівілася, угледзеўшы новага пажарніка, але жонка — пажарнік аб'явіла басам, што сёння ахова ўдвоена, бо крыжакі могуць кіно падпаліць.

Пасля кінасеанса вяртаецца жонка дамоў і такую гутарку да прыяцеля заводзіць:

— Не мне трэба было глядзець гэтую карціну, а табе, ідалу. Убачыў бы сваімі бессаромнымі вачыма, як сапраўднае каханне выглядае ў Збышка з Данусяй. Сядзіш на маёй шыі, бы Ульрых фон Юнгінген, і пагібелі на цябе няма.

Прыяцель адзываецца:

— Збышка сваё каханне паказвае мільёнам людзей, таму яго каханне і прыгожа выглядае. Нашае каханне сакрэтнае, ад людзей скрытае. Я б цябе ластаўку, па Збышкаваму любіў бы, толькі табе далёка да Данусі. Ніякі крыжак ад цябе ў захапленне не ўпадзе і ў замак да сябе не зацягне.

— Змоўкні, ірад, — кажа жонка, — паглядзеў бы ты як Збышка з крыжакамі б'ецца за сваю любоў.

— Біцца мне няма ніякай патрэбы, ды і ніхто мне цябе не адбірае. Але калі на гэта пайшло, пастаў паўлітра — з кожнага яешню зраблю.

Замест адказу баба такі Грунвальдскі бой павяла, што суседзі збегліся.

Калі яны даведаліся, што адбылася бітва з-за крыжакаў, галавамі паківалі і разышліся.

Што ж зробіш, людзі добрыя, калі без крыжакаў у любві не адзначышся, ды і Данусі са свечкай шукаць трэба.

*Дзядзька Лявон*

## ГАЛЕ, ГАЛЕ, ПРАЧНІЦЕСЯ!

У Лапухоўцы ўвялі «точку»,
Каб культуру пашыраць.
Ды вазьмі ты, прасвяціся,
Калі яе ледзь чуваць.

Слухаў спераду і ззаду,
Вуха клаў на мегафон,
І нічога не дабіўся,
Чуваць толькі нейкі звон.

Не пазнаеш, «точка» гэта,
Ці шпакоўня на галлі?
Нешта цвыркае, шчабеча,
Бы на стрэсе вераб'і.

Мо' прачнецца радыёвузел
І захоча даць адказ,
Калі «точка» ў нашай вёсцы
Загаворыць ўжо да мас?

**Янка Беразавец**
Лапухоўка

### СТРЫМАЎ СЛОВА

— Дарагі сябра, я ў гэтым месяцы не магу табе аддаць доўгу.
— Ты і ў мінулым месяцы гэтае казаў.
— А ці ж не стрымаў слова?

**Іван Мартынюк**
Плюціцы

### ПАХВАЛІЎСЯ

Адвакат да сына: — Ну, сынок, я ўжо стары, уручаю табе свае адвакацкае права, глядзі, трымайся добра.

Сын: — То я ўжо буду адвакатам? А што там рабіць, скажы, татка?

Бацька: — А вось што. Я 12 год цягнуў адну справу. Заўтра яна стаіць на вакандзе суда. Гэтую справу і перадаю табе.

Сын да бацькі (пасля справы):

— Татка, то ты аж 12 год з гэтай справай вазіўся?! Я яе залатвіў за адзін дзень!

Бацька: — Ну і пахваліўся, трэба было гэту справу працягваць так доўга, каб і тваім дзецям было з чаго жыць.

**Міколка Л.**
Войшкі




### У ПАРЫЖЫ

Па галоўнай парыжскай вуліцы ходзіць голы негр. Падыходзіць да яго паліцыянт і пытае, чаму ён голы.

— Выбачайце, — адказаў негр, — быў у войску, хадзіў па-вайсковаму, а сёння я закончыў службу і маю права хадзіць па-свойму, па-цывільнаму.

**А. Макаль**
Крушыняны

### НА ПАЛЯВАННІ

— Што ты робіш? Наставіў дула проста на мяне!
— Не бойся, я касы: хоць настаўлю на цябе, то і так траплю ў каго іншага.

**Міхась Балтрамюк**
Белавежа

### НА ЎРОКУ ЗААЛОГІІ

Настаўнік на ўроку заалогіі гаворыць, што буслы зіму праводзяць у Афрыцы.

Устае адзін з вучняў і кажа:

— Як гэта можа быць, калі я нарадзіўся ў снежні?

**Мар'я Нікіцюк**
Бельск.

## СЕЛЯНІН і ГУРКІ

(ГУМАРЭСКА)

Было гэта за цара. Адзін селянін пайшоў да гародніка гуркі красці. Падпоўз ён да гуркоў, пачаў рваць і пры гэтым думае: «Вось дай унясу мяшок гуркоў, прадам, за гэтыя грошы курачку куплю. Нанясе мне курачка яек, пасля з гэтых яек квактуха вывядзе куранят. Выкармлю я кураняты, прадам, куплю парася — свінку, напаросіт мне свінка парасят. Прадам парасята і куплю кабылку, дасць мне кабылка жарабя. Выкармлю жарабя, прадам, куплю дом з гародам. У гародзе пасаджу гуркоў, красці не дам, варту буду трымаць. Найму вартаўнікоў, навокал гуркоў пастаўлю іх, а сам так-то прайду ад стараны і крыкну: «Гэй, вы вартаўнікі, вартуйце мацней!» Селянін так задумаўся, што забыў зусім, што ён у чужым гародзе і закрычаў гэта, аб чым думаў на ўвесь голас. Вартаўнікі гародніка пачулі, выскачылі, злавілі селяніна і адлупцавалі.

**Мікалай Панфілюк.**